# наша СВАБОДА

№62 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

29 ВЕРАСНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стр.7

## Душаць «Вольную сцэну»

# ВОЛНА СВОБОДЫ

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Даволі нечаканая і прыемная навіна прыйшла з Мінгарвыканкама, дзе разглядалася заява аб правядзенні першага кастрычніка 2000 года акцыі «Марш Свабоды-3». Чыноўнікі дазволілі ўдзельнікам мерапрыемства распачаць збор а дванаццатай гадзіне ў нядзелю каля станцыі метро «Акадэмія навук».**

Пасля заканчэння збору ўдзельнікі акцыі пройдуць маршам па праспекце ды цэнтральных вуліцах горада да месца правядзення мітынгу. Па словах аднаго з арганізатараў акцыі, намесніка старшыні БНФ, галоўнага рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча, акцыя ў гэты раз мусіць завяршыцца недзе ў самым цэнтры горада. Альбо на плошчы Незалежнасці, альбо на Кастрычніцкай плошчы. У крайнім выпадку на плошчы перад оперным тэатрам, але ніяк не на плошчы Бангалор.

Між тым, заяўленая колькасць удзельнікаў, як звычайна, – 100.000 чалавек, а афіцыйныя прычыны правядзення – прыцягненне ўвагі грамадскасці да парушэння іх выбарчых правоў і свабоды выбару – за свабодныя і справядлівыя выбары, супраць выбарчага фарсу.

У Мінску тым часам вядзецца шырокамаштабная рэкламная кампанія акцыі. Усе вуліцы заклееныя рэкламовымі налепкамі, а ў скрынях з'явіліся адпаведныя ўлёткі.

Што атрымалася з чарговага «Маршу Свабоды», акцыі, якая стала своеасаблівай візітоўкай аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі, аб гэтым НАША СВАБОДА распавядзе ў наступным нумары спецыяльным рэпартажам з акцыі. Але лепш за ўласныя вочы ды вушы інфармацыю не перададуць ніякія сродкі масавай інфармацыі. Таму проста прыходзьце на «Марш Свабоды» і станьце ўдзельнікамі і сведкамі гэтай падзеі. ■




Власть боится свободного слова и правдивой информации. Режим может закрыть газеты, не допустить правду на радио и телевидение, но он не может запретить нам общаться с друзьями.

Если тебе не все равно, каким будет твое будущее, — приходи на «Марш Свободы»!

**Если тебе не все равно, каким будет будущее твоей страны — позвони по телефону десяти своим знакомым, которым надоело жить при диктатуре. А таковых только в Минске более миллиона человек!** Большинство граждан не ходит на массовые акции лишь потому, что не знает об их проведении.

У каждого из нас есть минимум десять друзей и знакомых, которые разделяют наши взгляды. Позвони им и пригласи на «Марш Свободы».

**Если с каждым из нас придут по десять друзей — на улицы выйдет весь город.**

# Преступники должны предстать перед судом!





На этих снимках вы видите неизвестного злоумышленника, который возглавлял преступную группировку, совершавшую в центре Минска разбойные нападения на мирных граждан среди бела дня 25 марта 2000 года, *переодевшись в форму работников милиции*. Существуют подозрения, что эти люди могут быть причастны и к другим групповым преступлениям, нападениям и актам злостного хулиганства, совершенным за последние годы на территории нашей страны.

Мы должны оказать всемерную помощь работникам белорусских правоохранительных органов в поимке и наказании этих преступников. Если вы узнали человека на снимке, немедленно позвоните в редакцию НАШАЙ СВАБОДЫ, в Белорусский Хельсинкский комитет (222-48-00) или в отделение милиции (02). ▶

*(Подробности читайте на стр.2)*

## НАВІНЫ

■ **Учора ў цэнтры Полацка адкрыты помнік святой Еўфрасінні. Ён паўстаў на перакрыжаванні вуліцаў, адна з якіх вядзе да манастыра, дзе захоўваюцца мошчы асветніцы.** Бронзавая постаць па праекце скульптара Уладзіміра Голубева адлітая на Мінскім трактарным заводзе. Пераважна на прыватныя ахвяраванні.

■ **Днямі на цэнтральных віцебскіх могілках здзейснены акт вандалізму.** Пашкоджаныя некалькі магіл дзеячаў культуры: з помнікаў скрадзеныя барэльефы. Магілы вядомых асобаў ганьбяцца ўжо не першы раз Але міліцыя не можа не толькі злавіць злачынцаў, а нават арганізаваць хоць бы якую ахову могілак.

■ **Лідскія гарадскія ўлады ўпарта не дазваляюць правядзенне пікета пад лозунгам «За незалежнасць Беларусі».** Адмову тлумачаць тым, што такія пікеты ў гэтым годзе ўжо ладзіліся ў сакавіку і ліпені і што на іх ужо выказваліся "адносіны да пытання незалежнасці».

■ **Выконваючы загад міністэрства ўнутраных справаў, гарадзенская міліцыя збірае грошы для сем'яў расійскіх падводнікаў, якія загінулі на падлодцы «Курск».** Канкрэтнай сумы ахвяраванняў МУС не вызначыў, але міліцэйскае начальства горада пастанавіла браць з міліцыянтаў па 1.000 рублёў.

■ **Толькі па афіцыйных дадзеных, на Магілёўшчыне агульны статак буйной рагатай жывёлы скарацію ся на 25 тысячаў галоў.** Наогул у сельскіх гаспадарках рэгіёна ў параўнанні з леташнімі паказчыкамі зафіксаваны спад вытворчасці на 4%. Гэта ў той час, калі план на 2000 год прадугледжваў павелічэнне колькасці выробленых прадуктаў на 10%.

■ **У Наваполацку з медычных установаў масава звальняюцца спецыялісты. Прычына – нізкія заробкі.** Ужо цяпер у горадзе не стае болей сотні спецыялістаў-медыкаў. Асабліва іх недахоп адчуваецца ў педыятрычных, тэрапеўтычных і кардыялагічных аддзяленнях.

■ **На Палессі дагэтуль працягваюць знаходзіць снарады гадоў ІІ Сусветнай вайны.** Падчас уборкі ўраджаю ў адной з вёсак Мядзельскага раёна ў бульбакапалку патрапіла авіяцыйная бомба.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» **1040**

## Сербская церковь поддержала Коштуницу

Оппозиционные силы Югославии намерены объявить всеобщую забастовку, чтобы вынудить президента страны Слободана Милошевича признать его провал на президентских выборах, которые состоялись в воскресенье. Об этом заявил в четверг лидер демократической партии Зоран Джинджич. Оппозиция настаивает на победе своего кандидата Воислава Коштуницы уже в первом туре, что противоречит официальным данным федеральной избирательной комиссии. «Мы призовем всех граждан к тотальному протесту и сопротивлению, к полному бойкоту властей», — подчеркнул З.Джинджич, выступая по одной из радиостанций. Это заявление последовало за состоявшейся в среду вечером в Белграде 200-тысячной манифестацией в поддержку кандидата оппозиции и с требованием ухода С.Милошевича в отставку. Со своей стороны, Сербская православная церковь направила в четверг В.Коштунице послание, в котором выражается поддержка кандидату оппозиционных сил как «избранному президенту» Югославии. Между тем в Риме министр иностранных дел Италии Ламберто Дини заявил, что в соответствии со столь очевидными результатами выборов в Югославии С.Милошевич должен был бы уйти в отставку.

ИНТЕРФАКС

# ЦВК прызнала відавочнае

**Рыгор БУЯН**

Цэнтральная выбарчая камісія нарэшце зарэгістравала 9 прадстаўнікоў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ. І зарэгістравала іх не ў якасці «міжнародных наглядальнікаў», а як «тэхнічных экспертаў». Вуснамі Цэнтрвыбаркама афіцыйны Мінск упершыню пасля Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі ў Вене, якая прайшла 30-31 жніўня, прызнаў, што прыезд місіі БДІПЧ не азначае міжнароднага нагляданя за выбарамі ў палату прадстаўнікоў. Дагэтуль дзяржаўныя мужы ўсялякага рангу дазвалялі каментаваць сабе рашэнне Венскай канферэнцыі як міжнародны нагляд за выбарамі, а значыць, і магчымасць прызнання палаты №2, якая не прызнаецца законнай ні адной паважанай краінай свету. Цяпер, няхай сабе і з агаворкамі, але «непаўнацэннасць» місіі АБСЕ нарэшце прызнаная.

Сакратар ЦВК Іван Ліхач гаворыць, што місія БДІПЧ АБСЕ «надзеленая асаблівым статусам»: тэхнічныя прадстаўнікі. Праўда, місія мае ўсе правы, якія нададзеныя палажэннем аб міжнародных наглядальніках, прынятым ЦВК. І.Ліхач скептычна дадаў, што такога паняцця, як «тэхнічныя наглядальнікі», не існуе. Сапраўды, «Кіраўніцтва па нагляданні за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ», прынятае ў 1997 годзе, прадугледжвае толькі два віды нагляданя: кароткатэрміновае (нагляданне пераважна ў дзень выбараў) і доўгатэрміновае (доўгатэрміновыя наглядальнікі працуюць на ўсіх стадыях выбараў). Гэта азначае, што цяперашняя місія БДІПЧ не ажыццяўляе ні аднаго з двух відаў нагляданя за выбарамі, а мае зусім іншыя паўнамоцтвы, мэты і задачы.

Між тым, у процівагу заявам апазіцыі кіраўнік тэхнічнай групы экспертаў Элізабет Расмусен пацвердзіла, што місія ўсё ж будзе знаходзіцца на Беларусі ў дзень галасавання – 15 кастрычніка. Тым не менш, яна заявіла, што эксперты абмяжуюцца толькі вывучэннем сітуацыі напярэдадні выбараў. «Мы збіраемся заставацца тут да часу пасля выбараў. Нашая каманда тэхнічных экспертаў збіраецца быць тут у дзень выбараў, але мы не будзем размяшчаць назіральнікаў на выбарчых участках», - патлумачыла Элізабет Расмусен. Эксперты плануюць пакінуць Беларусь толькі 19 кастрычніка.

Місія БДІПЧ АБСЕ, не наглядаючы за выбарамі непасрэдна, усё ж прыдае вялікае значэнне ўнутранаму нагляданню за ходам кампаніі. 26 верасня на сустрэчы з кіраўніцтвам Каардынацыйнай рады сямі грамадскіх аб'яднанняў Элізабет Расмусен заявіла, што менавіта ўнутранае нагляданне з'яўляецца найважнейшым паказчыкам дэмакратычнасці выбарчага працэсу, і заклікала беларускіх наглядальнікаў адкінуць палітычныя сімпатыі ці антыпатыі ў сваёй дзейнасці. Гэта недвухсэнсоўна сведчыць, што БДІПЧ АБСЕ зацікаўленае ва ўнутраным нагляданні за выбарамі, якое будуць ажыццяўляць звыш 4 тысячаў чалавек, і мае на мэце нейкім чынам скарыстаць ягоныя вынікі.

## У інвалідаў няма ні грошай, ні працы

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

З просьбай ацаніць сваё фінансавае магчымасці звярнуліся да маладых інвалідаў Мінска вучоныя Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта падчас сацыялагічнага даследавання.

Больш за палову апытаных – 62 працэнты – сказалі, што грошай ім хапае «у асноўным на харчаванне, самае неабходнае адзенне і абутак», а пра дарагія рэчы яны «могуць толькі марыць». Кожны чацвёрты адзначыў, што грошай хапае толькі на самае мізэрнае харчаванне. 8 працэнтаў апытаных адказалі, што могуць дазволіць сабе траціць грошы не толькі на харчаванне і адзенне, але і на прадметы доўгага карыстання. І толькі 5 працэнтаў указалі, што могуць дазволіць сабе купіць усё, што пажадаюць.

100 працэнтаў непрацуючых рэспандэнтаў-інвалідаў хацелі б атрымаць работу. Кожны чацвёрты апытаны інвалід гатовы працаваць на звычайным дзяржаўным прадпрыемстве, 21 працэнт хацеў бы працаваць за мяжой, 19 працэнтаў арыентуюцца на спецыяльныя прадпрыемствы для інвалідаў таварыства інвалідаў і 16 працэнтаў — на ўласную справу.

БелаПАН.

## Кожны можа навучыцца жыць лепей

**Наталля Кобрынь**

З 22 кастрычніка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў межах праекта адкрыцця Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта ладзіць па ўсёй Беларусі навукова-практычны семінар «Я магу жыць лепей».

На гэтым семінары будзе праходзіць адбор адміністратыўнага персаналу, выкладчыкаў, аспірантаў, студэнтаў для навучання і працы ў БНУ і яго філіях у Бабруйску, Оршы, Лідзе і Пінску.

Семінар будуць весці беларускія навукоўцы, выкладчыкі, дзеячы культуры і мастацтва. З аднаго боку, гэта будзе псіхалагічны трэнінг, які дапамажа людзям пазбыцца пачуцця залежнасці і выпрацаваць упэўненасць у сваёй здольнасці жыць лепей. З другога – заняткі, якія ставяць сваёй мэтай даць практычныя веды самым розным людзям, незалежна ад іхнага ўзросту, адукацыі і сацыяльнага стану.

У аснову семінараў пакладзены падручнік выбітнога прадстаўніка беларускай дыяспары ў ЗША і Чэхіі Вячкі Станкевіча. Дапаможнік улучае сусветнавядомыя прынцыпы самазагартоўкі і самаўдасканалення з мэтай радыкальнага паляпшэння сваёй жыццёвай сітуацыі.

Заняткі будуць праходзіць у зручны для слухачоў час у групах па 10-20 чалавек. Працягласць аднаго семінара – 6 гадзінаў. Дзеля тэхнічнага забеспячэння семінара прадугледжаная частковая кампенсацыя выдаткаў. Разам з тым інваліды, адзінокія кабеты з дзецьмі, беспрацоўныя і студэнты атрымаюць палёгку. Па заканчэнні семінара слухачам дорацца кнігі розных тэматыкаў улучна з падручнікам Вячкі Станкевіча.

# У Беларусі самы дарагі бензін у СНД

**Яўген ГРУБІЧ**

Цэны на нафтапрадукты ў Беларусі пасля чарговага павышэння 26 верасня перавышылі аналагічныя паказчыкі ў суседніх краінах СНД.

Нагадаем, што апошняе 10-працэнтнае падаражэнне — ужо чацвёртае ў верасні (дагэтуль цэны павышаліся 1, 7 і 16 верасня).

Такім чынам, зараз разбежка ў цэнах на нафтапрадукты ў Беларусі і суседніх з ёю дзяржавах выглядае наступным чынам (у доляравым эквіваленце):

1 літр аўтабензіну А-76: у Расіі — 0,20; ва Украіне — 0,29; Малдове — 0,41; Беларусі — 0,39; аўтабензін А-92: Расія — 0,24; Украіна — 0,31; Малдова — 0,43; Беларусь — 0,49; аўтабензін А-95: Расія — 0,28; Украіна — 0,34; Малдова — 0,44; Беларусь — 0,56; аўтабензін А-98: Расія — 0,38; Украіна — 0,40; Малдова — 0,44; Беларусь — 0,56; дызельнае паліва: Расія — 0,21; Украіна — 0,27; Малдова — 0,32; Беларусь — 0,36 долара ЗША.

БелаПАН

## У Мінску ўшанавалі Манюшку

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

У Мінску з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар кампазітара Станіслава Манюшкі з такой выявай: каля расчыненага вакна за раялем сядзіць юнак. Задума падобным чынам ушанаваць земляка ўзнікла яшчэ летась, калі адзначалася 180-годдзе з дня ягонага нараджэння. Хоць такая дошка, а то і помнік, мусілі б з'явіцца якраз да гэтай даты. Але лепш трохі пазней, чымсьці ніколі.

Скульптар Уладзімір Слабодчыкаў нездарама зрабіў вобраз менавіта маладога Манюшкі. У маладосці будучы вядомы кампазітар у 1830-1837 гадах вучыўся і жыў у Мінску. Сям'я Манюшкаў месцілася тады ў доме, што знаходзіцца цяпер на вуліцы Інтэрнацыянальная,21. На ім і ўсталявалі мемарыяльную дошку. Ды і нарадзіўся Станіслаў Манюшка пад Мінскам, у сядзібе Убель, што ў цяперашнім Чэрвеньскім раёне.

Пасталеўшы, Манюшка доўгі час жыў у Вільні, дзе быў дырыжорам опернага тэатра, а потым – у Варшаве, дзе таксама дырыжыраваў і быў дырэктарам мясцовага опернага «Тэатра Велькі».

Музыка вядомых «Хатніх спеўнікаў», што гучалі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ва ўсёй Рэчы Паспалітай, напісаная Манюшкам у тым ліку і да 20 беларускіх тэкстаў, сабраных Янам Чачотам сярод беларускіх сялянаў і потым перакладзеных на польскую мову. Ці яшчэ адзін факт: менавіта Станіслаў Манюшка (музыка) разам з Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам (лібрэта) спрычыніўся да з'яўлення першай беларускай оперы «Сялянка», пастаўленай у Мінску ў 1852 годзе.

Таму оперны спявак і музыказнаўца Віктар Скарабагатаў мае рацыю, калі называе Манюшку класікам беларускай музыкі перыяду рамантызму.

# Замаскированная банда

**Тамаш ПАЛЬМАЧИНСКИЙ**

**У всех нас свежи в памяти события 25 марта сего года, накануне празднования Дня Воли, когда в Минске была устроена тотальная облава на граждан, находившихся на площади Якуба Коласа, проходивших мимо по близлежащим улицам и стоявших на остановках городского транспорта. Людей хватали, травили собаками, сбивали с ног, избивали дубинками и кулаками, волокли в автомобили. Захваченных в плен людей отправляли в спортзал на окраине Минска или вывозили за город, где выталкивали из автомобилей на обочину. Плененные граждане(а их было более 500 человек) не сопротивлялись, но это не спасало их от расправы и унижения.**

Мартовская минская облава живо напомнила пожилым минчанам годы гитлеровской оккупации, а молодым дала яркое представление о природе нынешней власти. Акция режима получила широчайший резонанс и вызвала возмущение всех порядочных людей во всем мире. Десятки судебных исков против работников милиции стали итогом этого позорного дня в истории нынешней власти. Но до сих пор никто из виновников этой бессмысленной расправы над гражданами не понес заслуженного наказания. Далеко не все избитые и оскорбленные люди стали добиваться справедливости в наших судах, резонно полагая, что путь этот усеян шипами: ведь на них, помимо бюрократических препон и затруднений с поиском доказательств, тотчас обрушились и потоки телефонных угроз от анонимных «доброжелателей».

Но не перевелись еще в нашей стране нормальные, целеустремленные, с чувством собственного достоинства люди. Двое из них — Геннадий Миронов и Олег Пронин – через все препятствия при помощи юристов БХК довели свои претензии к белорусским силовым органам до суда Центрального района. Суть дела такова: 25 марта 2000 года Геннадий и Олег проходили по улице Красной и увидели, как некие люди, одетые в форму работников МВД, с опущенными забралами шлемов, руками и ногами избивали съемочную группу ОРТ. Друзья, естественно, выразили вслух свое удивление той чрезмерной жестокостью, с какой вершилась эта публичная расправа. И в ту же минуту люди в форме МВД, опьяненные злобой (они, судя по всему, находились в неконтролируемом, патологическом возбуждении), набросились на них с великой ненавистью, избивая дубинками, кулаками и ногами. Когда Олег и Геннадий попытались обратить на себя внимание человека в форме полковника МВД (см. снимки на полосе №1), который руководил действиями всей группы, то ответа не получили. Прозвучал приказ бросить их в милицейский автомобиль, называемый «автозак». Затем их отвезли в спортзал на улице Маяковского, где собирали в тот день всех захваченных в плен граждан...

24 сентября состоялось судебное заседание по искам Геннадия Миронова и Олега Пронина к МВД Республики Беларусь, войсковой части № 448 о материальном возмещении морального вреда. Впрочем, речь, скорее всего, может идти о поисках элементарной справедливости: сумма иска для такого скандального дела сравнительно небольшая - 1 миллион рублей. Свой иск Олег и Геннадий подкрепили записанным номером служебного автомобиля и видеопленкой, на которой был зафиксирован момент их избиения неизвестными людьми в обмундировании работников МВД. Кстати, эта плёнка много раз демонстрировалась по Белорусскому телевидению как неопровержимое свидетельство экстремизма представителей оппозиции. А на самом деле там зафиксированы два законопослушных гражданина, которые никакого отношения к оппозиции не имеют, и ... **группа неизвестных преступников, напавших на них под видом представителей правоохранительных сил.** Именно это выяснилось в процессе судебного заседания. Представитель ответчика – МВД Республики Беларусь Олег Мархоцкий на суде заявил следующее: «**Кто задерживал истцов, остается для нас до сих пор загадкой. При просмотре видео мы не узрели, что это были работники милиции. Возможно, это были экстремисты или преступные элементы, пытающиеся дискредитировать милицию. ...Указанная машина УАЗ 0625 в МВД не существует. ...В данном случае вместо сотрудников МВД были подставные лица, так сказать лжемилиционеры. Это мог сделать кто угодно. У нас очень много преступлений за последнее время совершается людьми в милицейской форме одежды**».

Итак, гражданское дело (а оно отложено) приобрело уголовный оттенок для неизвестных бандитов. Сейчас, в соответствии с законом, силовыми органами должны будут предприниматься все возможные меры по их розыску и задержанию. Выходит, зря мы грешили на нашу милицию и обвиняли ее во всех грехах. Милиция нынче не хочет участвовать в подавлении прав и свобод граждан, не желает участвовать в разгоне мирных шествий. И уж тем более, брать на себя ответственность за явно уголовные деяния неизвестных преступников.

В связи с вышеизложенным всем нам необходимо твердо знать: каждый работник милиции при задержании гражданина обязан четко и ясно представляться, показывать свое служебное удостоверение, называть причину и основание для задержания, вежливо предлагать задержанному пройти в отделение милиции или в служебный автомобиль. В противном случае гражданин вправе оказывать самое решительное сопротивление, громко звать на помощь товарищей, обращать на себя внимание прохожих.

Во время массовых мероприятий дружинники политических партий должны немедленно пресекать любые попытки неизвестных людей выдать себя за работников милиции, во всех случаях требовать от них предъявления документов и при отсутствии таковых производить их задержания и передавать работникам МВД под расписку. Самое время, в связи со слабостью милиции, приступать к организации всеобщей гражданской службы безопасности, добровольно и профессионально помогающей работникам милиции находить и обезвреживать замаскированных бандитов.

*(Информация предоставлена Белорусским Хельсинкским комитетом)*

# Год в нулевом режиме

## «Белорусскому бистро» дали поработать два месяца и закрыли на годовую перманентную проверку





**Отдел информации**

**В номере за 1 августа НАША СВАБОДА опубликовала материал «Национальные отличия «белорусского бистро». В нем освещался конфликт между СП «Универсальный Дом», который содержал «Белорусское бистро», и Главным хозяйственным управлением Управления делами президента РБ, которое сдавало в аренду «Бистро» помещения.**

Поскольку при конфликтах стороны обычно склонны к преувеличениям, то в прошлой публикации присутствуют и преувеличения, и неточности. В частности, не соответствует действительности известие, что «О.Батуро и ее сын скрываются от следствия». Мы легко отыскали и «сына», который находится в экономической докторантуре, и получили копию письма директора СП «Универсальный Дом» О.Ф.Батуро, которое она адресовала «Председателю Совета по координации деятельности контролирующих органов Республики Беларусь, Председателю Комитета Государственного контроля Республики Беларусь господину А.Тозику».

Письмо называется «О фактах вымогательства, чинимых препятствиях работе и нарушении права на труд».

Это письмо и множество прилагаемых к нему документов представляют конфликт иначе, чем противостоящая сторона: «Целью действий отдельных должностных лиц Главного хозяйственного управления Управления делами Президента Республики Беларусь является выселение СП «Универсальный Дом» из помещений, полученных в аренду практически разрушенными и отремонтированных благодаря инвестициям учредителя — немецкой компании *Bectan Consult & Trade GmbH*, чтобы затем передать готовые ресторан, теле-кафе, кондитерский цех и т.д. в аренду «знакомым» фирмам...». Но поскольку «официально расторгнуть договор аренды у Главного хозяйственного управления нет оснований, что подтверждено документально Хозяйственным судом города Минска, то используется давление...»

Фотоснимки показывают, как выглядели помещения до ремонта и после него до 6 января текущего года, когда в ресторан пришла очередная проверка. На православное Рождество работники милиции «при проверке нашего ресторана по ул.Кирова, д.8, к. 1А, изъяв документы и печати СП «Универсальный Дом» и ненадлежаще составив протоколы, «опечатав» вскрытую ими кладовую, поужинали в празничную ночь в торговом зале, но не рассчитались и в 5 утра покинули ресторан «Белорусское бистро».

Был ужин или не было, разберется прокуратура, но странно, что до рождественской проверки два райотдела письменно обращались в Белорусско-германское СП «Универсальный Дом» с просьбами об оказании «шефской помощи». Какое шефство может иметь предприятие общественного питания, хоть и совместное, над райотделами милиции? То есть в обычных условиях просьба выделить посуду на проведение торжества как бы и понятна, но при конфликте полученная «шефская помощь» влечет за собой цепь не лучших ассоциаций.

Проверка, изъятие документов и печатей заморозили работу «бистро», но судебных или прокурорских санкций на закрытие рабочих мест не поступило. Поэтому работники «Белорусского бистро» считают, что «без решения суда и без санкции прокурора начальник корпуса ГХУ Даниленко Н.Д. незаконно опечатал помещения ресторана и теле-кафе по ул.Кирова, д.8, в которые он часто ходит, заявляя: «Я здесь хозяин...» Н.Даниленко отключил 4 холодильные камеры, из-за чего испортились скоропортящиеся продукты на сумму более 3 тысяч долларов... По этим фактам мы обратились 16 апреля 2000 года с заявлением в Ленинский РУВД Минска и к Прокурору Ленинского района. В связи с отсутствием ответа, повторно обратились в РУВД и к Прокурору...».

«Без присутствия представителя СП «Универсальный Дом» продукты утилизируются и незаконно опечатываются все двери, персонал не имеет возможности войти в помещения до настоящего времени. Аналогично чинятся административные препятствия работе трудового коллектива в здании по ул.Долгобродская, 14.

В результате противозаконных действий должностных лиц Главного хозяйственного управления почти 7 месяцев более 300 созданных СП «Универсальный Дом» рабочих мест в арендуемых помещениях «опечатаны», сотни человек оказались в вынужденном отпуске за свой счет».

«Пытаясь обеспечить возможность работы в данных помещениях, мы подали иск в Хозяйственный суд г. Минска и получили 26 июня письменные гарантии ГХУ УД Президента РБ свободного входа для наших работников, которые не выполняются». «Заказным» проведением проверки 6 января сего года ресторана, проработавшего менее двух месяцев, при незаконченной предыдущей и предшествующих ревизиях, общий срок проверки растянулся до 370 дней и дезорганизовал работу предприятия. Значительный ущерб нанесен и немецкой компании *Bectan Consult & Trade GmbH*, инвестиции которой в размере около 200 тысяч долларов США «заморожены».

Не обошлось и без физической силы. «В январе должностное лицо Янченков Д.А. нанес директору О.Батуро в помещении по ул.Долгобродская, 14 телесные повреждения, что согласно поданного заявления в РУВД было подтверждено свидетелями и судебно-медицинской экспертизой. Телесные повреждения привели к тяжкой форме заболевания. На заявление о привлечении гражданина Янченкова к уголовной ответственности начальник Партизанского РУВД провел проверку и уведомил, что материалы проверки направлены в суд Партизанского района. Но дело в суд за полгода так и не дошло».

«В Следственный комитет 23 июня сего года было направлено сообщение КРУ Минфина по г.Минску с «расчетом» о якобы произошедшем хищении и допущенной ошибкой в десятки тысяч долларов США, что подтверждено независимой аудиторской проверкой, которую провела немецкая сторона. Например, ревизор сознательно для увеличения размера хищения указал факт якобы невыполненных нами договорных обязательств в 29.928 долларов перед литовской фирмой ИП «Э.Вишняускайте». В реальности данный поставщик недопоставил 7 единиц комплектующих линии «шоковой» заморозки, что делает невозможным технически ее эксплуатацию и соответственно окончательный платеж. Данный факт юридически и экономически поддержан службами Мингорисполкома, ряда министерств и комитетов при подготовке Постановления Совета Министров Республики Беларусь «Об освобождении СП «Универсальный Дом» от уплаты государственной пошлины» при подаче иска по невыполненным обязательствам к ИП «Э.Вишняускайте».

Вот так выглядят только некоторые из многих пунктов этого письма, которое, надо думать, будет проверено в полном объеме и выведет из летаргии затянувшуюся проверку. Конфликт давно вышел за свои вообщем-то узкие берега, и сейчас механизм жалоб и исков втягивает в работу министерство иностранных дел РБ, немецкое министерство экономики и др.

Надо надеяться, что Совет по координации деятельности контролирующих органов РБ поможет разобраться, кто прав, кто виноват. ■

**Рэдакцыя прапануўвае сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Беларусбанка».**

**Для афармлення падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.**

**Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на больш тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка
Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет
(фамилия,имя,отчество)
(индекс) (адрес)
На 2000 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма
Пеня
Всего
Кассир Плательщик

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка
Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет
(фамилия,имя,отчество, адрес)
На 2000 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

**КВИТАНЦИЯ**

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма
Пеня
Всего
Кассир Плательщик

РАКУРС

# Беларускае багацце

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Што ёсць багацце? Тое, што маеш, тое, што ў цябе гатовыя адабраць зайздроснікі, а мо тое, што страціў? А можа гэта тое, што пакінулі табе ў спадчыну дзяды і бацькі, і тое, што ты пакінеш сваім дзецям?**

Пытанні, пытанні... Штодня іх ўсё болей. Жонкі пытаюцца ў мужоў, дзе зарплата. Прэзідэнт пытаецца ў паплечнікаў, чаму эканоміка працуе ўсё лепей, а людзі лепей не жывуць. Вось ужо і адзіны курс увялі, бадай яго МВФ, – усё роўна багацейшыя не зрабіліся.

Багацце! Як едзеш, прыкладам, у Крупкі ці то ў Дзятлава, дык на кожным слупе напісана: «Лес – наше богатство». Подпісу, праўда, няма. Небяспечна. Каб не зрабілася як з той Канстытуцыяй: пачынаецца «Мы...», а подпіс, як высветліла следства – «Грыб». Зараз, праўда, нармальна, як пачынаецца, гэткі і подпіс.

Добра ў лесе, як ў кажусе. Яго сапраўды берагчы трэба, яшчэ спатрэбіцца. Ды і абставіны ўсе спрыяльныя. З кожным годам лягчэй дыхаецца беларусу. Лясы займаюць ужо пад 40% тэрыторыі. Яны выпрацоўваюць 77 млн. т кіслароду і спажываюць 93 млн. т вуглекіслаты штогод.

За Лукашэнкам плошча лясоў узрасла на 5%, і зараз на кожнага тутэйшага прыпадае ўдвая болей, чым на сярэдняга жыхара астатняе Еўропы. Гэнак будзе і надалей, бо высякаць паспяваюць нашыя дзялкі толькі 42% ад таго, што нарастае.

Як ёсць лес, дык ёсць і ягадкі (сярэднегадавыя нарыхтоўкі насельніцтвам – 50 тыс.т), і грыбкі (18 тыс.т), і дзічына (70 відаў можна есці), і зёлкі (300 відаў лекавых). Не дзіва, бо натуральныя экасістэмы займаюць 55% плошчы краіны.

А яшчэ снег хутка ляжа. На сто дваццаць дзён. Прыгажосць. Свінні сваё адрохкаюць. Во! Галоўнае ледзьве не забылі: чарку ды скварку.

Чарка, гэта такі рэзерв, такі рэзерв. Калі наш волат-народ кіне жлукціць спірытусавыя сумесі без меры, то працягласць жыцця мужчыны павялічыцца на сем гадоў. Гэна ж колькі парсюкоў ён выгадуе тым часам.

Трэба, бо калгасныя ў сваіх свінячых Дахау не разумеюць дзяржаўных патрэбаў і аб'ядаюць адно аднаму вушы і хвасты. Нібыта, акрамя палітыкаў, не маюць прыкладаў жыцця ў калектыве.

Не, мала гэткіх месцаў у Еўропе засталося, дзе жывуць сабе як у нас, вольныя людзі. Яны там міленіюмаў палохаюцца, маўляў, камп'ютэр сапсуецца. А ў нас кожная дзесятая сям'я падчас апытанняў кажа, што лес, поле і рэчка – галоўныя крыніцы іхнага дабрабыту.

Лес навокал жывы, прыгожы. У галовах беларускіх лес — сакральны, містычны, таемны, бясконцы. Во дзе неруш для хованак і ўцёкаў ад уласнага сумлення. А як жа інакш, калі дзяды за паўтары тысячы гадоў столькі ўсяго ў лесе параседзілі.

Тых ужо следу няма, а мы бульбу таўчэм. Каб не датаўчыся да клямкі, бо Чарнобыль у лесе не пераседзіш. 23% нашае зямлі з 2,1 млн. чалавек насельніцтва пякельным попелам зацярушыла. Ляснула чвэрць багацця нашага, панове-браты.

Няўжо на тым скончыцца? Падобна, не. Рынкавы сацыялізм у лесе не пераседзіш і інтэграцыю таксама. Прычапіліся яны, як трасца. А дзеля жыцця з той трасцай патрэбны беларус спецыяльны: каб рабіць ленаваўся, красці баяўся, а прасіць каб ужо і не пасмеў.

Але ж не хочацца, мабыць, гэнак шаноўнаму чытачу. І дзякуй Богу. Рабіся багаты. І нам расказвай, калі не сорамна альбо не страшна. Цікава, каго на Беларусі багацеі баяцца? ■

# Наўмыснае ўдушэнне «Вольнай сцэны»

## Так акрэсліваюць дзеянні мінкульта акцёры Рэспубліканскага тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі

Кірэй МАНУЙЛА

**У гісторыі вакол «Вольнай сцэны» дадаецца ажыятажу. Апошнія падзеі паказваюць, што ўлады не толькі не збіраюцца ўлагоджваць канфлікт, а, наадварот, вызнаюць гвалтоўнае вырашэнне праблемы. Па сутнасці, міністэрства культуры наважылася скасаваць тэатр, якім ён ёсць, — «Вольнай сцэнай». Дадзены выпадак – сімптаматычная ілюстрацыя таго, як рэжым трымаецца татальнага кантролю ў галіне культуры і мастацтва.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Справа ў тым, што мінкульт надзвычай нечакана і нервова адрэагаваў на няўдалае і скандальнае прадстаўленне новым мастацкім кіраўніком замест Валерыя Мазынскага Валерыя Анісенкі. Нагадаем, тады трупа катэгарычна адпрэчыла ягоную кандыдатуру і прымусіла пакінуць тэатр. Пры гэтым акцёры ў якасці кампраміснага варыянта прапанавалі на пасаду мастацкага кіраўніка Аляксея Дударава. Але ўжо на наступны дзень міністр культуры выдаў па лёсе «Вольнай сцэны» адразу некалькі загадаў.

Так, Аляксандр Сасноўскі прызначыў Валерыя Анісенку да ўсяго яшчэ і выконваючым абавязкі дырэктара тэатра замест дырэктара Юрыя Куліка, які знаходзіцца ў адпачынку. Але хутчэй за ўсё в.а. тут не абыдзецца, і праз некаторы час пратэжаваны мінкультаўскі галоўны рэжысёр зойме дырэктарскае крэсла ўжо без усялякіх умоўнасцяў. На тое, што гэта здарыцца з вялікай верагоднасцю, выдае такі факт: Куліка не пакінулі ў складзе мастацкай рады тэатра. Справа ў тым, што міністр культуры наогул цалкам яе змяніў. У тэатральных колах міністэрскі загад пра гэта называюць беспрэцэдэнтным выпадкам, бо звычайна тэатральныя мастацкія рады абіраюцца на сходах творчых калектываў. Орган, які прызначаецца зверху, часта бывае спрэс кішэнным. Сасноўскі выключыў з ранейшага складу мастацкай рады Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, апрача Юрыя Куліка, Валерыя Мазынскага, галоўнага мастака Віктара Цімафеева, загадчыка літдрамчасткі Івана Чаркаса і артыстку Людмілу Сідаркевіч. Пакінулі толькі заслужаную артыстку Беларусі Таццяну Мархель і дадалі Валерыя Анісенку, рэктара Акадэміі мастацтваў Рычарда Смольскага, драматургаў Анатоля Дзялендзіка і Алену Папову (як пазначана ў загадзе «з іхняй згоды»), а таксама артыста Зміцера Бойку і намесніка дырэктара «Вольнай сцэны» Паўла Палякова, які, дарэчы, кажа, што не можа ўцяміць, нашто ён у мастацкай радзе, паколькі займаецца гаспадаркай. У тым жа загадзе ад новай мастацкай рады на чале з Анісенкам вымагаецца «да 1 лістапада 2000 года распрацаваць і прадставіць міністэрству праграму творчай дзейнасці на перыяд 2000-2001 гг.».

І Анісенка ўжо ўзяўся кіраваць – ён збіраецца аднавіць спісаныя з рэпертуара дзве свае пастаноўкі на «Вольнай сцэне» – «Макбет» і «Рычард» Шэкспіра. Хоць ад іх засталася толькі траціна дэкарацыяў. А на выпадак, калі вольнасцэнаўцы, што былі калісьці занятыя ў гэтых спектаклях, надумаюць ладзіць сабатаж супраць Анісенкі, міністр культуры павялічыў акцёрскі склад тэатра на 15 штатных адзінак. На гэтыя месцы Валерый Анісенка, відаць, набярэ паслухмяных артыстаў з тэатральнага курса універсітэта культуры, дзе ён выкладае. Такім чынам мінкульт хоча змяніць сітуацыю, калі мастацкага кіраўніка, што вельмі паказальна, адрынае ўся трупа, а з цягам часу выціснуць з «Вольнай сцэны» тых, хто не падпарадкоўваецца. Паколькі звольніць цяперашніх акцёраў няма аніякіх юрыдычных падставаў, іх пакуль вось такім мінкультаўскім дыктатам правакуюць сысці з тэатра самім.

Аднак вольнасцэнаўцы рабіць гэтага не збіраюцца ні ў якім разе. Яны звярнуліся да старшыні Саюза тэатральных дзеячаў Аляксея Дударава з просьбай «зрабіць адпаведныя захады па захаванні трупы тэатра і абароне яе прафесійнай і чалавечай годнасці». Артысты пішуць, што дзеянні Аляксандра Сасноўскага – гэта «не ўласныя амбіцыі спадара міністра, а мэтанакіраваная палітыка на ўдушэнне і знішчэнне адметнага творчага калектыву». У другім лісце, звароце да творчай інтэлігенцыі краіны, гаворыцца, што «застаецца надзея толькі на Вас, шаноўныя калегі, на Вашу падтрымку, салідарнасць, сумленне і грамадзянскую пазіцыю. Іншага паратунку мы не бачым. Сёння пачалі з нас, заўтра Вы можаце апынуцца ў нашым становішчы».

Бадацца з дубам складана. Да міністра Сасноўскага з просьбамі перагледзець рашэнне што да пасады мастацкага кіраўніка на «Вольнай сцэне» шэраг аўтарытэтных у беларускім тэатральным мастацтве асобаў ужо звярталіся. Напрыклад, мастацкі кіраўнік Рускага тэатра Барыс Луцэнка ад гільдыі рэжысёраў ці памянёны старшыня СТД Аляксей Дудараў. Але думка акцёраў «Вольнай сцэны», кіраўніцтва прафесійнага тэатральнага саюза і нават рэкамендацыі аддзела тэатра міністэрства для Аляксандра Сасноўскага – пустое. Значыць, запратэставаць мусіць уся інтэлігенцыя.

Бо за працідзеяннем такому гвалту ўладаў, які робіцца з «Вольнай сцэнай», – лёс вольнай краіны. І пафаснасці ў такой сентэнцыі за дыктатурай – самая жменька. ■

# Чаму ў Беларусь не едуць турысты?

Мар'ян КАРЫМОНТ

**Сёлета Міжнародны дзень турызму (27 верасня) Беларусь ужо традыцыйна зноў сустрэла з адмоўным сальда ад гэтай галіны. Яно больш за 100 мільёнаў долараў. Аднак усе дзеянні, што прадпрымаюцца беларускімі ўладамі па пераўтварэннях у арганізацыі турыстычнага бізнесу і ў турыстычным іміджы краіны, застаюцца збольшага адно што касметычнымі. Замежнікі да нас ехаць не хочуць, ды і самі беларусы што да турызму аддаюць перавагу зусім не радзіме.**

Толькі па афіцыйных дадзеных, прыведзеных намеснікам міністра спорту і турызму Чэславам Шульгой, за першыя сёлетнія 9 месяцаў уязны турызм – гэта 80 тысячаў, а выязны – 110 чалавек. Па падліках памежных службаў, краіну ў гэтым годзе пакідала блізу мільёна чалавек. Разам з тым чыноўнік давёў, што прыбыткі ад турызму складаюць на-



ват меней за 1% валавага ўнутранага прадукту. Гэта тады, калі для краіны з такім геаграфічным становішчам, як Беларусь, па ацэнках Міжнароднай асацыяцыі турызму, за крытычную ўважаецца лічба менш за 10%. Дарэчы, у самых турыстычна развітых дзяржавах яна сягае 30-50%.

Для заходніх турыстаў Беларусь застаецца пераважна транзітнай краінай, але і тут апошнім часам яны пачалі ездзіць у тую ж Расію праз Літву. З гэтай нагоды нядаўна з'явілася ўрадавая пастанова «Зялёны калідор». Яна прадугледжвае, што для турыстаў, якія едуць да нас, мытна-памежныя працэдуры мусяць доўжыцца не болей, як 30 хвілінаў.

Наогул жа замежных турыстаў адпуджвае палітычная рэпутацыя Беларусі, а самае галоўнае – кепская турыстычная інфраструктура. Гатэльна-сервіснае абслугоўванне проста ў надзвычайным заняпадзе. З амаль 250 гасцініцаў адзінкі больш-менш на прыстойным узроўні, а пяцізоркавай няма аніводнай. У правінцыйных гасцініцах – агульныя прыбіральні на паверсе і душ дзе-небудзь у склепавым памяшканні. У якасці вырашэння праблемы Чэслаў Шульга называе прыцягненне на турыстычныя аб'екты замежных інвестыцыяў, а ў тым ліку дазволу ўкладаць сюды грошы беларускаму прыватнаму бізнесу. Як тое было зроблена, напрыклад, у Венгрыі. Але, як кажа куратар турыстычнай справы Беларусі, «перакanaць шэраг высокіх дзяржаўных чыноўнікаў» у гэтым яму пакуль не ўдаецца. У выніку з 15 тысячаў аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі, вартых паказу, рэальна паказваюцца толькі 5%. Пералічваць усё, што вымагае рэстаўрацыі і добраўпарадкаванняў, можна бясконца. Дастаткова згадаць хоць бы Сынкавічацкі храм з праваленай падлогай.

Да ўсяго не стае элементарнай «раскруткі». Белавежскай пушчай і Браслаўскімі азёрамі абмяжоўвацца нельга. На сённяшні дзень маюцца толькі намеры правядзення інвентарызацыі таго, што ёсць у краіне, і выдання агульнага каталога беларускіх турыстычных маршрутаў. Рэкламай, так бы мовіць, прасоўваннем нацыянальнага турыстычнага прадукту ў свеце абсалютна не займаюцца. У той час, калі ў бюджэце Літвы на гэтыя мэты ёсць адмысловы артыкул з сумай на 1,5 мільёна долараў, а ў Расіі – на 3 мільёны, то ў наш не закладзена ні капейкі.

Да канца года павінна быць распрацаваная пяцігадовая Нацыянальная праграма развіцця турызму. Міністэрства спорту і турызму разлічвае, што па яе выкананні галіна будзе даваць 5% у валавым унутраным прадукце. ■

Літаратура НАШАЙ СВАБОДЫ

# Восень сакрата

Леанід ГАЛУБОВІЧ



**На Беласточчыне, у Крынках , жыве польскі беларус і літаратар Сакрат Яновіч. Спадару Сакрату 63 гады. Сябра Саюза польскіх пісьменнікаў з 1970 года. Скончыў электратэхнікум і Настаўніцкі інстытут, а пасля і факультэт філалогіі Варшаўскага універсітэта. Працаваў журналістам у тыднёвіку «Ніва», быў старшынём клуба польскіх пісьменнікаў у Беластоку. У гады перабудовы шмат часу аддаў грамадскай і палітычнай дзейнасці, адстойваючы беларушчыну ў Польшчы. Аўтар кніжак прозы «Загоны», «Сярэбраны яздок» (пра Кастуся Каліноўскага), «Сцяна», «Самасей» і «Дзённікаў» (1987–1995)... Перакладаўся на англійскую ды іншыя мовы. Піша таксама і па-польску.**

У адных – не хапае ў крыві адрэналіну, а ў Яновіча – праз край. За што ў сваім жыцці ні браўся Сакрат і чаго толькі ні рабіў, адзін Бог ведае, ды польскі ўрад, які, у рэшце рэшт, і ўзнагародзіў яго Кавалерскім крыжам — ордэнам Адраджэння Польшчы.

«Нельга мець двух талентаў аднолькавага фармату, калі ты добры паэт, дык не суньСя ў палітыку. Бо палітыка, як і паэзія, гэта справа не столькі інтэлектуальнасці і моцнай волі, але перш за ўсё таленту...», – скажа ён у адным са сваіх інтэрв'ю, але пасля таго ўжо, як сам апячэцца на ўласным выбары, пабыўшы кандыдатам у дэпутаты Сената.

Сакрат Яновіч – арыгінальны і як чалавек, і як пісьменнік. Ён можа «перагрызці глотку» апаненту сваёй ідэі, а ўжо назаўтра пакінуць бездыханнай і саму тую ідэю. Ён схільны зачароўваць сваіх суразмоўцаў гэтак жа, як і расчароўваць іх. Беларуская мова будзе дзяржаўнай і паўсядзённай для беларусаў толькі тады, калі на ёй загавораць прастытуткі – неяк абмовіўся ён.

Яновіч як літаратар пачынаў хораша і цікава. Ад яго мовы пахла конскай аброццю, а стыль быў неаб'езджаны – страсны і гутарковы, ён меў як свае перавагі, так і таіў мастацкую небяспеку, у сэнсе вульгаршчыны і «мужыцкасці». Аўтар гуляў сам па сабе, але не далей, чым дазваляў загон камуністычных законаў. Зрэшты, на той час і сама літаратурная творчасць была для яго, як і любоў да Айчыны, своеасаблівым «каханнем без узаемнасці»: «Ён схаваў яе імя, закопваў яго штораз глыбей. Часамі адкопваў, каб пагглядзець для пэўнасці, быццам скнарлівы багацей. Сцярог імя, наглядаў за ім як шчаслівы ўласнік скарбу».

Безумоўна, што яго погляд з сацыялістычнай Польшчы на бальшавіцкую БССР быў больш разняволеным, чым зваротны погляд. Таму не ўсё напісанае Яновічам у Беластоку пазітыўна ўспрымалася ў Мінску. Доступ да шырокага чытача быў абмежаваны. А што літаратура без чытача? Фальклор. Трэба было кучкавацца, пашыраць межы нацыянальнай самабытнасці ў самой Польшчы. І як ні дзіўна, вакол тыднёвіка «Ніва» пачалі выяўляцца паэты, празаікі, публіцысты, а галоўнае – і чытачы, хоць і нешматлікія, а ўсё ж – свае...

Балота, якое можна высушыць толькі штучным метадам, называецца багнай. Мера нацыянальнай жывучасці і ёсць той багнай, якая сама з сябе корміцца, сама сваё паглынаючы. Чалавек, дажываючы да пэўнага веку, нарэшце пачынае разумець сваю гібласць. Ён разумее, што ўратавацца ад поўнай пагібелі (не так цялеснай, як духоўнай) зможа, толькі выбавіўшыся з багны...

Так аднойчы, наталіўшыся і натаміўшыся барацьбой «за сваё сярод чужога», ён скрушна заяўляе, што яму абрыдла «шукаць чорную кошку ў цёмным пакоі», што змаганне за беларушчыну на чужыне змагло яго самога, што ў старасці ён хоча вудзіць рыбу ў ціхай затоцы жыцця... Тут якраз да месца будзе абразок з яго першай кніжкі: «Хворым не шукаць праўды. Таму лекары ашукваюць іх з чыстым сумленнем. Праўда можа забіць. Найважнейшае: жыць, жыць, жыць, колькі ўдасца! Пытанне толькі: Як? Як жыць? Якой цаною?»

Не, каб таіцца з вудзільнам у кустах, трэба мець звышсакратаўскае трыванне. Не тая ў яго ўнутраная канстытуцыя. І як толькі спала з душы дэпрэсія, як толькі прынараўіўся ён да жыцця ў Крынках – усё пачало паўтарацца наноў: інтэрв'ю, артыкулы, сустрэчы, імпрэзы, проза, выдавецкія праекты і... пражэкты... Інакш Яновіч не быў бы Сакратам. А яшчэ – восень, з надыходам якой робіцца больш выяўным плён чалавечага жыцця. З удзячнасцю ж заўважым, што і не без яго духоўных высілкаў яшчэ і «польска не згінэла», і «Беларусь пакуль жывая».... І – добра. ■

